**БЕЛАРУСКІ СЕЛЬСАВЕТ:**



ЛІКВІДАВАЦЬ ЦІ ПАМІЛАВАЦЬ?

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

**КАМУ СВЕЦЯЦЬ**



СВАБОДНЫЯ НАРЫ?

СТАР. 6

**БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** 7.02.13-13.02.13 г.


# ЯК МАКЕЙ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА БАРАНІЎ

Міністэрства замежных спраў Беларусі заклапочана тым, што на Захадзе бракуе дэмакратыі.




*Да правоў чалавека ў нас ставяцца ну вельмі своеасаблівa*

## "А Ў ВАС НЕГРАЎ ЛІНЧУЮЦЬ"

Колісь улады Савецкага Саюза на ўсе папрокі наконт парушэння правоў чалавека ў СССР адказвалі ў стылі "а ў вас неграў лінчуюць". Стары прапагандысцкі прыём цяпер выкарыстаў афіцыйны Мінск. МЗС Беларусі падрыхтавала справаздачу пад цудоўнай назвай «Нарушения прав человека в отдельных странах мира в 2012 году».

> "Отдельных стран" у дакуменце 25. Натуральна, сярод іх няма, да прыкладу, Ірана, дзе і сёння практыкуюцца варварскія публічныя пакаранні смерцю. Але ж Махмуд Ахмадзінежад — сябар Аляксандра Лукашэнкі, таму якія могуць быць да яго пытанні?"

"Отдельных стран" у дакуменце 25. Натуральна, сярод іх няма, да прыкладу, Ірана, дзе і сёння практыкуюцца варварскія публічныя пакаранні смерцю. Але ж Махмуд Ахмадзінежад — сябар Аляксандра Лукашэнкі, таму якія могуць быць да яго пытанні?

Ва ўступным слове міністр замежных спраў Уладзімір Макей тлумачыць, што краіны для справаздачы адбіраліся з ліку тых, "которые традиционно относят себя к «развитым демократиям»". Апошніх беларускія дыпламаты папракаюць за неналежнае стаўленне да правоў чалавека.

Возьмем, да прыкладу, першы факт са справаздачы.

"30 августа на глазах значительного числа полицейских несколько футбольных болельщиков, собравшихся на одной из площадей Вены в преддверии футбольного матча, атаковали проходившего мимо раввина, скандируя антисемитские лозунги: «Евреи, убирайтесь вон!» и «Хайль, Гитлер!», изображая при этом нацистское приветствие".

## НАЙЦІКАВЕЙШАЕ

Гэта проста песня! Крыніца інфармацыі не пазначана. Месца падзеі акрэслена да немагчымасці канкрэтна — "на одной из площадей Вены".

*Заканчэнне на стар. 3*

**ДАВЕДКА**

**Ў 2012 годзе сярэдні заробак у Вялікабрытаніі складаў каля 2200 фунтаў стэрлінгаў (прыблізна 3450 амерыканскіх долараў). Таму Макею варта клапаціцца пра суайчыннікаў, якія атрымліваюць непараўнальна меншыя грошы, а не пра жыхароў туманнага Альбіёна.**

**НАВІНА**

# АТРЫМЛІВАЦЬ КВАТЭРУ ПРАЗ 5-7 ГАДОЎ

Звычайныя мінчукі стаяць у чарзе больш за 20 гадоў.

Дзяржава працягвае дапамагаць сілавым структурам з жыллём.

За імі захавана права на атрыманне льготнага крэдыту.

На асаблівым кантролі кватэрныя пытанні трымаюць і ў сталічным спецназе. Байцам гарантуецца ўласнае жыллё на працягу 5–7 гадоў. Пра гэта ў інтэрв'ю часопісу «Спецназ» распавёў камандзір АМАПу ГУУС Мінгарвыканкама палкоўнік міліцыі Аляксандр Лукомскі.

«Калі чалавек трапляе да нас у атрад, ён становіцца членам нашага калектыву, і мы нясем за яго адказнасць, — заявіў Аляксандр Лукомскі.

— Што тычыцца вырашэння жыллёвага пытання, то даем месца ў інтэрнаце ГУУС, ёсць і два дамы службова-спецыяльнага жылля, куды з часам можна усяліцца па чарзе.

Ёсць у нас і свая чарга, і жыллёва-бытавая камісія па размеркаванні месцаў у ЖБК. Цяпер будуем два дамы ў мікраараёне Уручча. Прыкладна праз 5–7 гадоў службы ў атрадзе чалавек забяспечваецца ўласным жыллём. Існуе і рознага роду стымуляванне, пачынаючы з дзяржаўных і ведамасных узнагарод і заканчваючы грашовымі прэміямі».

Чарга на жыллё для звычайных мінчукоў складае больш за 20 гадоў.

# ЦІ МОЖНА ПАРАЎНАЦЬ ПРЫГНЁТ БЕЛАРУСКІХ ЖУРНАЛІСТАЎ І ЖУРНАЛІСТАЎ З ІНШЫХ ЕЎРАПЕЙСКІХ КРАІН?

Наша міністэрства замежных спраў адшукала шмат “сур’ёзных” парушэнняў правоў журналістаў у еўрапейскіх краінах. “Тут і цяпер” расследавала, наколькі яны сур’ёзныя ў параўнанні з адносінамі ўлад да правоў беларускіх журналістаў.



*Свабода слова – адна з асноўных каштоўнасцяў чалавецтва*

**АНДЖЭЙ ПАЧОБУТ, ЖУРНАЛІСТ:**

## “ГЭТА НЕПАРАЎНАЛЬНЫЯ РЭЧЫ”

— Канечне, сітуацыя са свабодай слова ў заходніх краінах і ў Беларусі розная. Гэта абсалютна непараўнальныя рэчы. На Захадзе крытыка — нармальная з’ява. Дарэчы, увесь гэты рапарт, падрыхтаваны спадаром Макеем ці яго падначаленымі і змешчаны МЗС Беларусі на сваёй старонцы, спісаны ў асноўным з заходніх СМІ. Прынамсі, тая частка, якая тычыцца Польшчы, цалкам узята з польскіх СМІ. І гэта перш за ўсё паказвае, як выглядае свабода слова, напрыклад, у Польшчы, як выглядае свабода слова ў Швецыі, Латвіі. На самай справе, калі адбываецца нешта дрэннае, то гэта апісваюць польскія СМІ і на гэта рэагуюць польскія ўлады. У Беларусі ж сітуацыя абсалютна іншая. Тут у дзяржаўных СМІ рэчаіснасць падаецца толькі з аднаго пункта гледжання — каб задаволіць Аляксандра Рыгоравіча. Пра нейкія эксцэсы ў “Советской Белоруссии” ці на БТ не будзе ні слова альбо будзе пададзена не так, як было насамрэч.

**АНДРЭЙ БАСТУНЕЦ, НАМЕСНІК СТАРШЫНІ ГА “БАЖ”:**

## “БЕЛАРУСКІЯ ЖУРНАЛІСТЫ Ў ПАРАЎНАННІ З ЕЎРАПЕЙСКІМІ КАЛЕГАМІ БЯСПРАЎНЫЯ”

— Параўнаць, канечне, можна амаль усё. І сапраўды, парушэнні правоў, у тым ліку правоў журналістаў, адбываюцца ва ўсіх краінах. Але, па-першае, можна казаць пра адзінкавыя выпадкі, а можна — пра масавы характар. Гэта розныя рэчы. І па-другое: у тых адзінкавых выпадках парушэння правоў, што здараюцца ў Еўропе, пацярпелыя маюць магчымасць абскардзіць гэтыя парушэнні — не толькі ў судовай сістэме, але і, напрыклад, у Еўрапейскім судзе па правах чалавека. У беларусаў, на жаль, такой магчымасці няма. І гэта таксама вельмі мяняе сістэму каардынат, у якой мы знаходзімся. Заўважу яшчэ: сярод прыкладаў парушэння правоў журналістаў прыводзіцца прыклад асуджэння Даніса Радзявічуса з Саюза журналістаў Літвы. Сапраўды, такі факт быў, але пры гэтым застаецца па-за ўвагай тое, што касацыйная інстанцыя гэты прысуд адмяніла. І прысуд быў, зразумела, па прыватнай скарзе. І, зразумела, да штрафу, а не турэмнага тэрміну, які пагражае сёння, напрыклад, Анджэю Пачобуту.

**АНТОН СУРАПІН, ЖУРНАЛІСТ:**

## “У БЕЛАРУСІ ЖУРНАЛІСТЫ ПРАЦУЮЦЬ, НЕ ВЕДАЮЧЫ, ДЗЕ БУДУЦЬ ПРАЗ ДЗЕНЬ”

— Я думаю, што параўнаць гэта немагчыма, таму што беларускія журналісты працуюць у такім становішчы, калі іх могуць прыціснуць у любую хвіліну. Усё ж такі ў Еўропе гэта адзінкавыя выпадкі прыгнёту, так бы мовіць. Там можна працаваць больш свабодна, не вельмі непакоячыся аб сваёй бяспецы, не хаваючыся і гэтак далей. А ў Беларусі, на жаль, большасць журналістаў, асабліва незалежных, працуюць так, што не ведаюць, дзе будуць праз дзень, два, праз тыдзень. Невядома, што можа здарыцца. І з гэтым адчуваннем працуюць. Таму немагчыма гэта параўнаць.

**ВАЛЯНЦІНА, СТУДЭНТКА:**

## “А СЛАБО “БЕЛСАТУ” ДАЦЬ АКРЭДЫТАЦЫЮ?

— Як можна параўноўваць лагер, дзе ўсе баяцца лішняе слова сказаць, і вольны свет, абмежаваны выключна законамі?! Я ўвогуле не разумею, як у нашай краіне яшчэ працуюць незалежныя журналісты. Нават за сямейным сталом людзі абыходзяць палітычныя тэмы, каб не пасварыцца. А ўжо выказваць свае думкі незнаёмаму чалавеку з камерай ці дыктафонам… Такіх у нас адзінкі. Пра лёс Асанжа яны заклапаціліся, цынікі. А слабо журналістам тэлеканала “Белсат” акрэдытацыю даць? Ці радыё “Свабода” выдзеліць FM-хвалю? Яны нават “Авторадио” баяцца.

**АПЫТАННЕ ПРАВЕЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

### ДА ВЕДАМА

**Міністэрства замежных спраў Беларусі апублікавала ў сваім дакладзе «Парушэнні правоў чалавека ў асобных краінах свету ў 2012 годзе» факты прыгнёту журналістаў, якія мелі месца ў некаторых краінах Еўрасаюза, паведамляе БелТА.**

Справаздача распавядае пра выпадкі прыгнёту прадстаўнікоў масмедыя ў такіх краінах ЕС, як Балгарыя, Італія, Латвія, Літва, Вялікабрытанія і Швецыя.

Балгарыя, у прыватнасці, патрабуе экстрадыцыі з Вялікабрытаніі рэдактара анлайн-агенцтва навін, прадстаўніка народнасці рома, экс-кандыдата ў дэпутаты Младзенава. Балгарскі бок абвінавачвае яго ў парушэнні грамадскага парадку ў паліцэйскім участку ў Сафіі. Між тым журналіст уцёк з Балгарыі, баючыся за сваё жыццё. У яго офісе праведзены ператрус, сам рэдактар быў збіты на вуліцы, а побач з яго домам прагрымеў выбух.

У Італіі, у горадзе Ачы-Сан-Антонія, камітэт муніцыпальнай паліцыі падаў судовы іск супраць журналіста Вінчэнца Барбагала, які апублікаваў на сайце відэаролік, з якога бачна, як муніцыпальны паліцэйскі выкарыстоўваў службовы аўтатранспарт для перавозкі прыватных грузаў.

# ЯК МАКЕЙ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА БАРАНІЎ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 1*

Але ж найцікавейшае палягае ў тым, што 30 жніўня ў сталіцы Аўстрыі не было футбольных матчаў — ні бундэслігі, ні кубкавых.

Канечне, нельга выключыць, што ў гэты дзень недзе ў Вене аматары сабраліся пагуляць у футбол. Але малаімаверна, што з гэтай нагоды заўзятары збіраліся на "одной из площадей".

Нарэшце, праявы антысемітызму можна знайсці ў любой краіне. Але ж чамусьці ўлады нашай краіны, заўважаючы парушынку ў чужым воку, не бачаць бервяно ва ўласным: тое, што прафашыстоўскія настроі досыць распаўсюджаны сярод фанатаў шэрагу беларускіх клубаў, даўно не сакрэт.

## ВЯСЁЛЫЯ ПУНКТЫ СПРАВАЗДАЧЫ

Ідзем далей. У справаздачы таксама вядзецца гаворка пра парушэнне правоў уцекачоў у аўстрыйскім лагеры "Трайскірхен", сярод якіх першым пунктам згадваецца наступнае: "не организована необходимая психологическая опека со стороны профессиональных педагогов" (!). Аналагічнаму цэнтру для мігрантаў у Гюсінгу закідаюць тое, што ў некалькіх жыхароў там здарыліся прыступы алергіі (!!!). "Нарекания вызывает и организация питания", — грозна адзначае Міністэрства замежных спраў Беларусі.

Натуральна, перапала і Злучаным Штатам Амерыкі. Аднак беларускія дыпламаты даследавалі тэму так грунтоўна, што, як адзначае часопіс Foreign Policy, пераблыталі пол кандыдата ў прэзідэнты ЗША Джыл Стайн, не кажучы ўжо пра тое, шо сказілі яе імя.

Ледзь ці не самы вясёлы пункт справаздачы змяшчаецца ў главе пра Вялікабрытанію. Згаданай краіне інкрымінуецца "парушэнне права кожнага на дастатковы жыццёвы узровень".

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# КУДЫ ЗНІКАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ

**Узяцца за гэты тэкст мяне прымусілі апублікаваныя нядаўна вынікі перапісу насельніцтва Чэхіі, праведзенага ў 2011 годзе. Піша Сяргей Абламейка для svaboda.org.**



Аказалася, што ў Чэшскай Рэспубліцы жывуць 4129 грамадзян Рэспублікі Беларусь. З іх 2013 вызначылі сваю нацыянальнасць як беларускую, а 826 чалавек заявілі, што іх родная мова — беларуская.

Мяне гэтыя вынікі непрыемна ўразілі. Асабліва тое, што менш за палову грамадзян Беларусі, што жывуць у Чэхіі, лічаць сябе беларусамі!

Напярэдадні Калядаў па старым стылі ўключыўбыў беларускую дзяржаўную тэлевізію. У расейскамоўным выпуску навінаў карэспандэнтка, стоячы перад былым мінскім кляштарам бэрнардынак, дзе цяпер месціцца праваслаўная катэдра, казала нешта накшталт такога: «Сегодня у православных Сочельник. Такое название канун Рождества получил от сочива — традиционного рождественского блюда. Его готовят из толченой пшеницы с добавлением мёда, изюма и других сладостей…»

Праз гадзіну па гэтай жа тэлевізіі пачаўся беларускамоўны выпуск навінаў. І там карэспандэнтка заявіла нешта такое: «Сёння ў праваслаўных беларусаў Куцця. У гэты дзень да стала падаецца традыцыйная беларуская посная куцця, якую гатуюць з панцаку і прыпраўляюць мёдам і макам… «

«Куцця» і «Сочельник»… Можна сказаць, што гэта адна і тая ж страва і адна і тая ж з'ява (хоць і розняцца яны рэцэптамі прыгатавання — адна пераважна гатуецца з пшаніцы, а другая з ячменю). Але можна сказаць і інакш: паміж гэтымі стравамі — прорва, якая падзяляе два суседнія народы, адзін з якіх спрадвеку імкнецца падбіць і дэнацыяналізаваць другі, а той другі — усё яшчэ квола бароніцца.

Вынікі гэтага беларускага хістання добра праявіліся ў выніках чэшскага перапісу. Менш за палову грамадзян Беларусі, прысутных у Чэхіі, лічаць сябе беларусамі і толькі пятая частка іх называе роднай мовай беларускую.

Здаецца мне, што 2116 грамадзян Беларусі, якія жывуць у Чэхіі і не лічаць ужо сябе беларусамі, ніякай патрэбы у беларускай культуры не маюць — хоць беларускамоўнай, хоць рускамоўнай, хоць якой іншай. Яны ўжо маюць культуру — «великую русскую культуру» і «великий и могучий русский язык», а разам з імі рускамоўныя газеты і часопісы Чэхіі, рускія крамы з савецкімі доктарскай каўбасой, ікрой і грэчкай, гастролі рускіх зорак эстрады і рускіх тэатраў, і, натуральна, спадарожнікавую рускую тэлевізію.

І не важна, што «великие и могучие» культура і язык сёння выхадцамі з нацыянальных ускраін былога СССР практыкуюцца ўжо ў іх масавых формах. Калі тэлевізія, то сэрыялы і танныя шоў, калі літаратура, то Дар'я Данцова, калі мова, дык «па жизни», «в натуре», «зуб даю», «мочить», «облом» і г. д.

Па вялікім рахунку, можна сказаць, што мы маем справу з Расійскай імпэрыяй, якая ў сваім савецкім выданні ўсё яшчэ існуе калі не на мапе свету, дык у душах мільёнаў прадстаўнікоў народаў, якія фармальна ў яе ўжо не ўваходзяць.

Гэта і засведчыў перапіс насельніцтва Чэхіі 2011 году. (Хоць поўнага даверу да гэтых лічбаў быць не павінна. Напрыклад, мая сям'я і яшчэ 20–30 маіх знаёмых адказалі на адно з пытанняў аднолькава, але ў канечных выніках перапісу нашы адказы аказаліся ніяк не ўлічаныя — супраць таго парамэтру стаяла лічба «0». Таксама не на карысць Чэскага статыстычнага камітэту і лічбы па носьбітах рускай мовы — там няясна, куды дзеліся больш за 60 тысяч неўкраінскамоўных грамадзянаў Украіны.

Тым не менш, вось вынікі чэшскага перапісу па ўкраінцах. Грамадзян Украіны ў Чэхіі жыве 116 139 чалавек. Украінцамі сябе лічаць 53 253 чалавекі, а роднай моваю ўкраінскую назвалі 48 250. З аднаго боку, тут бачым спадчыну СССР і савецкі народ, але з іншага — амаль усе, хто лічыць сябе ўкраінцамі, назвалі роднай мовай украінскую. Вядома, тут мова ідзе пераважна пра выхадцаў з Заходняй Украіны.

Далучаюся да закліку Станіслава Шушкевіча і Сяргея Дубаўца да ўсіх, каму дарагая Беларусь — загаварыць пабеларуску. І дадаю яшчэ адзін заклік. Кожны беларускамоўны інтэлектуал, які можа, хай напіша кніжку па-беларуску. А лепш — некалькі.

**СЯРГЕЙ АБЛАМЕЙКА**

# СЕЛЬСАВЕТ: ЛІКВІДАВАЦЬ ЦІ

**Рэфармаванне адміністратыўна-тэрытарыяльнага дзялення ў Беларусі яшчэ наперадзе, але ўжо сёння старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына гаворыць пра тое, што беларусам "не патрэбны" Саветы першаснага ўзроўню.**



*Не трэба нам такія "служкі"*

Паводле яе слоў, "востра стаіць пытанне захавання сельскіх, пасялковых Саветаў".

Лідзія Ярмошына лічыць магчымым ліквідацыю сельскіх Саветаў "з-за таго, што там вельмі цяжка знайсці будучых кандыдатаў у дэпутаты і забяспечваць потым дзейнасць гэтых прадстаўнічых органаў, якія валодаюць невялікімі паўнамоцтвамі".

"Бо зямлёй, іншымі багаццямі распараджаюцца вышэйшыя ўзроўні Саветаў і выканаўчых органаў", — сказала кіраўнік Цэнтрвыбаркама Беларусі.

> "Але ж гэта будзе стараста, якога людзі не выбіралі; ён будзе прызначацца выканкамам вышэйшага ўзроўню", — адзначае Кароль. Ці будзе давер да такога чалавека з боку "мясцовых", і наколькі ён будзе адстойваць іх інтарэсы? Вось гэта пытанне".

Яе словы прымушаюць задумацца хаця б таму, што выбары ў мясцовыя Саветы пачнуцца ў нас ужо праз год. І калі гэта не пустыя словы, а новая ініцыятыва ЦВК па рэфармаванні выбарчага працэсу, накіраваная на разгляд прэзідэнту, то неўзабаве нас чакаюць не толькі парламенцкія выбары па новых правілах, але і скасаванне значнай часткі мясцовых выбараў.

Аднак ці сапраўды сельскія ці пасялковыя Саветы маюць невялікія паўнамоцтвы?

## ТОЛЬКІ БЮДЖЭТ, І ТОЕ ФАРМАЛЬНА

"Так, першыя ўзроўні Саветаў маюць невялікія паўнамоцтвы", — кажа былы дэпутат Белаазёрскага гарадскога Савета дэпутатаў Юрась Губарэвіч.

Па яго словах, мясцовыя сельскія і пасялковыя Саветы, а таксама Саветы гарадоў раённага падпарадкавання — гэта Саветы першаснага ўзроўню. "Па сутнасці, паўнамоцтваў у іх няшмат. Асноўнае іх права — збірацца на сесіі не радзей за чатыры разы на год. Звычайна яны збіраюцца пяць-шэсць разоў і абмяркоўваюць праблемы. Што да паўнамоцтваў, то асноўная задача мясцовых Саветаў — зацвердзіць бюджэт адміністратыўнай адзінкі на бягучы год. Звычайна гэты бюджэт "спускаецца" з выканкама вышэйшай ступені і, як правіла, на пачатку бягучага года. Бюджэт ужо сфарміраваны, узгоднены з вышэйшымі органамі і рэспубліканскім бюджэтам, таму змены ў яго ўнесці амаль немагчыма. Звычайна бюджэт зводзіцца да фінансавання органаў мясцовай улады — самога Савета і мясцовага выканкама", — кажа Губарэвіч.

Але, тым не менш, у гэты бюджэт могуць закладвацца і іншыя сродкі, напрыклад на добраўпарадкаванне тэрыторыі. Тады дэпутаты могуць вырашаць, што пасёлку найбольш патрэбна. Але, заўважае Губарэвіч, гэта вельмі невялікая сума, таму што такімі рэчамі, як адукацыя, ахова здароўя, жыллёва-камунальная гаспадарка "распараджаюцца" выканаўчыя органы больш высокага ўзроўню.

## АЛЕ Ж НЕШТА МОЖНА ЗРАБІЦЬ

Напрыканцы года дэпутаты першасных Саветаў зноў збіраюцца на сесію, каб зацвердзіць фінансавыя вынікі года. І вось тут, па словах Губарэвіча, можна паспрабаваць паўплываць на бюджэт наступнага года. "Дэпутаты мясцовых Саветаў могуць унесці свае заўвагі па выкананні бюджэту і паспрабаваць дамагчыся таго, што бюджэт на наступны год будзе больш адэкватным", — заўважае Губарэвіч. Але, адзначае ён, такіх прыкладаў у яго бытнасць дэпутатам не было.

І яшчэ адна цікавая "фішка": як правіла, старшыня мясцовага сельскага і пасялковага Савета з'яўляецца і кіраўніком выканкама вёскі ці пасёлка. "Дэпутаты вылучаюць старшыню на гэтую пасаду, але ж зацвярджэнне старшыні ўваходзіць у функцыі вышэйшага выканкама. Былі такія прыклады, калі дэпутаты выбіралі аднаго чалавека, а ў вышэйшым выканкаме яго не зацвярджалі. Гэта прыводзіла да калапсу сістэмы", — кажа Губарэвіч.

## НЕ ЛІКВІДАВАЦЬ, А РЭФАРМАВАЦЬ

Але пры тым, што мясцовыя дэпутаты амаль ні на што не ўплываюць, Губарэвіч кажа, што не спяшаўся б з разбурэннем існуючай сістэмы.

Ён згодны з тым, што на такую пасаду цяжка знайсці чалавека, і конкурс на выбарах такіх узроўняў мінімальны. "Але ж на такую пасаду звычай выбіраецца найбольш аўтарытэтны чалавек: на-

# ПАМІЛАВАЦЬ?

стаўнік, урач, найлепшы механізатар і інш. То бок мясцовая эліта, якая даволі блізка знаходзіцца да тых, хто на мясцовым узроўні прымае рашэнні", — адзначае Губарэвіч.

"Усё ж такі мясцовы дэпутат сельскага і пасялковага Савета менавіта таму, што выбіраецца ён невялікай колькасцю людзей, лепш ведае праблемы сваіх выбаршчыкаў. З іншага боку, ён становіцца ўжо бліжэй да ўлады і праз свае стасункі з вышэйшай выканаўчай уладай можа ўплываць на вырашэнне самых надзённых мясцовых праблем. Гэта, па-мойму, найбольш эфектыўны мост паміж уладай і выбаршчыкамі", — кажа Губарэвіч.

> Усё ж такі мясцовы дэпутат сельскага і пасялковага Савета менавіта таму, што выбіраецца ён невялікай колькасцю людзей, лепш ведае праблемы сваіх выбаршчыкаў.

**"А без гэтай ступені "народаўладдзя" народ застанецца цалкам без свайго прадстаўніка".**

Увогуле, выйсце з сітуацыі Губарэвіч бачыць не ў ліквідацыі мясцовых Саветаў, а ў наданні ім большых паўнамоцтваў. "Па-першае, мясцовыя Саветы павінны вызначаць дзейнасць органаў выканаўчай улады, а па-другое — самастойна распараджацца сродкамі, то бок мясцовымі бюджэтамі", — кажа Губарэвіч. Гэта, на яго думку, дазволіць выкарыстоўваць сродкі больш эфектыўна, менавіта па прычыне той жа "блізкасці дэпутата да народа". Тады, як кажа Губарэвіч, людзі не будуць лічыць, што дэпутат "нічога не вырашае". Адпаведна, павысіцца прэстыж дэпутатцтва, і, як вынік, павялічыцца "конкурс" на дэпутацкае месца. І Ярмошынай не давядзецца казаць, што "вельмі цяжка знайсці будучых кандыдатаў у дэпутаты".

## ШТО ЗАМЕСТ?

Справа ў тым, што замест мясцовых Саветаў не прапаноўваецца стварыць анічога. Палітолаг Аляксей Кароль лічыць, што замест Саветаў можа быць уведзены інстытут старасты. "Але ж гэта будзе староста, якога людзі не выбіралі; ён будзе прызначацца выканкамам вышэйшага ўзроўню", — адзначае Кароль. Ці будзе давер да такога чалавека з боку "мясцовых", і наколькі ён будзе адстойваць іх інтарэсы? Вось гэта пытанне.

То бок пры адсутнасці вырашэння праблем можна было б паскардзіцца і на мясцовага дэпутата, і самому мясцоваму дэпутату. А каму скардзіцца на старасту — невядома. Хіба што адразу прэзідэнту?..

**СЯРГЕЙ КОЎШ.**




*Ці пачуюць твой голас, вось у чым пытанне*

# ХТО І ЯКІЯ ДАТАЦЫІ АТРЫМЛІВАЕ АД ЕЎРАСАЮЗА?




На гэтай схеме можна бачыць, хто ў бюджэт Еўрасаюза больш плаціць, а хто — атрымлівае, піша "Наша ніва".

Сума датацый па розных лініях пазначаная на белым фоне, сума выплат у бюджэт — на чорным.

Сістэма субсідый прадуманая так, каб выраўнаць узровень развіцця краін Еўрасаюза. Паводле разлікаў, такое выраўноўванне прывядзе з часам да ўзмацнення ЕС як цэлага, а таксама забяспечыць нацыянальную бяспеку ЕС як у сферы харчовай самадастатковасці, так і ў інфраструктуры і энергетычнай палітыцы.

Найбольшы донар ЕС — Нямеччына.

Краіны ж Цэнтральнай і Усходняй Еўропы атрымліваюць немалую дапамогу. Апошнія сем гадоў Польшча штогод атрымлівала ад ЕС каля 11 мільярдаў еўра (=14 мільярдаў даляраў). Літва — каля 1,3 мільярда еўра (= 1,7 млрд даляраў). Для параўнання: Беларусь у тры разы большая, чым Літва.

Сума датацый разлічваецца ў залежнасці ад памеру ВУП краіны, патрэбаў таго ці іншага сектараў, а таксама ўмоваў, якія краіна выгандлявала ў часе складаных унутрыеўрапейскіх перамоваў. Літва на грошы Еўрасаюза пераабсталявала школы і ўніверсітэты, разбудавала аэрапорты, інвеставала ў турыстычныя аб'екты і аўтатрасы. Вялізныя сумы атрымліваюць з еўрабюджэту сяляне. Крайне важнымі былі праекты падлучэння энэргасетак да еўрасаюзаўскіх, што дае падушку бяспекі на выпадак энергетычнага шантажу.

Акурат сёння ў Брусэлі распачаўся чарговы саміт Еўрасаюза, на якім будзе прынятае рашэнне аб бюджэце на 2014–2020 гады. Брытанія, Нідэрланды, Швецыя і Фінляндыя хацелі б змяншэння аб'ёму еўрасаюзаўскіх вытрат. Францыя і бяднейшыя краіны, наадварот, пярэчаць абразанню фондаў. Францыя атрымлівае шмат на падтрымку сваёй вялікай сельскай гаспадаркі. А бяднейшыя краіны разлічваюць на грошы з ЕС на розныя патрэбы.

# КАМУ СВАБОДНЫЯ НАРЫ?

**Не так даўно старшыня Вярхоўнага суда Беларусі Валянцін Сукала заявіў: аповеды пра тое, што беларускія калоніі перапоўнены, усяго толькі міф.**



*Турэмныя нары асацыююцца пакуль толькі з пакутамі*

*Варта заўважыць, што яшчэ зусім нядаўна Беларусь займала высокія пазіцыі ў разнастайных рэйтынгах, якія тычыліся колькасці зняволеных і пенітэнцыярнай сістэмы. Па словах Сукалы, суддзі прыслухаліся да крытыкі і зрабілі адпаведныя высновы.*

**«Тут і цяпер»** *высвятліла, што думаюць на гэты конт праваабаронцы.*

## РАЎНЕННЕ НА ЕЎРАСТАНДАРТ

Па словах старшыні Вярхоўнага суда, ліміт напаўняльнасці месцаў зняволення ў Беларусі яшчэ не дасягнуты.

Пра гэта Валянцін Сукала заявіў у нядаўнім інтэрв'ю «Советской Белоруссии».

«*Пазітыўная дынаміка злачыннасці дазволіла ў яшчэ большай ступені скараціць колькасць людзей, якія накіроўваюцца ў месцы пазбаўлення волі,* — гаворыць

> Калі б таварыш Сукала прывёў поўную статыстыку асоб, асуджаных да мер пакарання, звязаных з пазбаўленнем волі, у тым ліку з абмежаваннем свабоды, то ў нас атрымаліся б зусім іншыя лічбы

чыноўнік. — *У мінулым годзе ў папраўчых установах апынулася на 3000 чалавек менш, чым у 2011-м. І на пачатак бягучага года там утрымлівалася 24 000 асуджаных — на 6 тысяч менш, чым у 2011 годзе. А ліміт напаўняльнасці нашых месцаў пазбаўлення волі складае 32,5 тысячы чалавек. Я кажу гэта таму, што і сёння распаўсюджаны дзіўныя міфы пра тое, што нашы калоніі быццам перапоўнены. На самай справе сталі так актыўна прымяняцца штрафы, грамадскія работы, іншыя альтэрнатыўныя меры ўздзеяння, што пазбаўленне волі ў структуры пакаранняў цяпер складае каля 20 працэнтаў. Гэта адпавядае еўрапейскім стандартам*».

## ФОКУСЫ З ЛІЧБАМІ

*Праваабаронца і былы суддзя* **Гары Паганяйла** *пацвярджае: апошнім часам у Беларусі сапраўды адбылося зніжэнне колькасці турэмнага насельніцтва. Аднак, на думку Гары Пятровіча, Валянцін Сукала злёгку маніпулюе лічбамі.*

— Суды сапраўды сталі менш накіроўваць асуджаных у месцы пазбаўлення волі, — *каментуе праваабаронца.* — Але таварыш Сукала крыху не дагаворвае, таму што ў нас у разлік не бяруцца асобы, якія ўтрымліваюцца ў адкрытых установах (іх у народзе называюць "хіміяй"), а таксама тыя, хто адбывае пакаранне па месцы жыхарства і ў калоніях адкрытага тыпу для асоб, якія ўчынілі злачынствы па неасцярожнасці. На захадзе, калі падлічваюць колькасць зняволеных, калоніі і закрытага, і адкрытага тыпаў усё роўна лічаць разам, як месцы пазбаўлення волі. І тыя, хто церпіць гэтыя пакаранні, лічацца пазбаўленымі волі. А мы спрабуем неяк выкруціцца і паказаць, што ў Беларусі стала менш асуджаных да пазбаўлення волі за кошт вось такой гульні з лічбамі. Калі б таварыш Сукала прывёў поўную статыстыку асоб, асуджаных да мер пакарання, звязаных з пазбаўленнем волі, у тым ліку з абмежаваннем свабоды, то ў нас атрымаліся б зусім іншыя лічбы. І, думаю, вельмі сумныя.

Справа ў тым, што шмат дзясяткаў гадоў Беларусь, як, дарэчы, Расія, Украіна і шэраг іншых постсавецкіх краін, крытыкуюцца сусветнымі інстытутамі, якія адсочваюць сітуацыю ў пенітэнцыярнай сістэме, за тое, што што надта шмат турэмнага насельніцтва, надта шмат людзей неапраўдана караюцца пазбаўленнем волі. І вось адказваючы на гэтую крытыку і ідучы, што называецца, курсам гуманізацыі крымінальнага пакарання, нашы таварышы кажуць пра гэтую статыстыку. Але крыху не дагаворваюць...

## ТЭНДЭНЦЫІ НЕ НАЗІРАЕЦЦА

*Праваабаронца* **Алена Танкачова** *звяртае ўвагу на іншы вельмі важны факт — перапоўненыя ізалятары, куды традыцыйна змяшчаюць большасць з тых, каго падазраюць ці абвінавачваюць ва ўчыненні злачынстваў. На думку Танкачовай, большасць жыхароў далёкіх ізалятараў маглі б чакаць суда, напрыклад, пад падпіскай аб нявыездзе.*

— Меркаваць аб тым, што нешта змянілася і суды сталі менш накіроўваць людзей у месцы пазбаўлення волі, даволі складана, таму што тая статыстыка, да якой звяртаецца спадар Сукала, хутчэй, ілюструе толькі тое, што судовая сістэма спрабуе пачаць прымяняць іншы падыход, — *выказвае сваё меркаванне Алена.* — Аднак казаць пра тое, што гэта з'яўляецца ўстойлівай тэндэнцыяй, на мой погляд, рана.

Да таго ж вельмі шмат людзей утрымліваюцца ў ізалятарах у чаканні судовых разглядаў. Думаю, гэта праблема, пра якую таксама трэба казаць і шукаць варыянты яе вырашэння. Па падліках праваабаронцаў, каля 70 працэнтаў людзей, якія знаходзяцца пад вартай да суда, маглі б чакаць суда пад падпіскай аб нявыездзе або пад хатнім арыштам.

Ізалятары перапоўнены. І любы маніторынг сёння пакажа, што па колькасці людзей, якія адначасова ўтрымліваюцца ў камерах, гэта не адпавядае міжнародным стандартам.

На жаль, праваабаронцы не маюць прамога доступу ў закрытыя ўстановы, нягледзячы на тое, што праваабарончая грамадскасць гадамі спрабуе дамагчыся таго, каб нам была забяспечана магчымасць маніторынгу такіх устаноў. Адпаведна, мы кіруемся той інфармацыяй, якую ўдаецца атрымаць з розных крыніц: дзяржаўнай статыстыкі, экспертных матэрыялаў і ацэнак, інфармацыі ад тых людзей, якія з'яўляюцца яе непасрэднымі носьбітамі (праз перапіску і распаведы саміх зняволеных і часам — ад супрацоўнікаў гэтых устаноў). Казаць пра тое, што нашы закрытыя ўстановы адпавядаюць стандартам нармальнага знаходжання зняволеных, на жаль, няма падстаў. І тое, што спадар Сукала заяўляе аб пэўным змяншэнні колькасці людзей, якія былі накіраваныя ў турмы, добра, але гэта, на жаль, пакуль не тэндэнцыя. І гэта не вырашае праблему тых зняволеных, якія былі накіраваны ў калоніі да гэтага перыяду.

**МАРЫНА МІТ**

# ЯЎГЕН ФЁДАРАЎ: «ТРЭБА З ІХ УСІХ РЖАЦЬ!»

Лідар некалі гурта Tequilajazzz выходзіць на сувязь з Еўрарадыё. Распавядае пра новы гурт, жыццё ў Тбілісі, і як перамагчы «дэбілаў», якія сядзяць там, наверсе.

**- Распавядзіце, калі ласка, для нашых слухачоў, дзе вы цяпер знаходзіцеся, што вакол адбываецца? Вы ў Тбілісі? У Піцеры?**

- Я цяпер у Санкт-Пецярбургу са сваёй перасоўнай студыяй знаходжуся. Тут жа рыхтую выпуск нашага аўдыёсерыяла «Монголоид», які літаральна днямі гатовы з'явіцца на свет. Займаюся апошнімі падрыхтоўкамі, уласна, таму цяпер тут, у Пецярбургу.

Вакол мяне ўсякія сінтэзатары, гукавыя карты, разнастайныя электронныя прыборы, камп'ютары, акустычныя сістэмы, гітары, бас-гітары, і іншая ўсялякае глупства.

Тое, што нас любіць, што нас падтрымлівае, тое ж нас і губіць. Я маю на ўвазе аўдыторыю

**- У адным з інтэрв'ю вы згадалі, што "не саромеецеся выкарыстоўваць зусім розныя фарбы, гармоніі і музычныя культуры розных краін". Можаце распавесці, музычныя культуры якіх менавіта краін?**

- Ад Скандынавіі да Індыі. Вылазіць нейкае сугучча, нейкі дзіўны акорд, ты з радасцю на ім медытуеш, а потым высвятляецца, што гэты акорд ты пачуў аднойчы ў якім-небудзь рэстаране на поўначы ў Гімалаях.

Так, мы выяўляем у нашай творчасці ўплыў іншых культур, але мы туды спецыяльна нічога не ўстаўляем, мы не канструюем нашу музыку з нейкіх элементаў, загадзя ўзятых і змешчаных у нашых такіх аптэкарскіх скрыначках. Яно прыходзіць аднекуль з космасу, і нам уцешна адчуваць, што гэтыя ўплывы прыходзяць не з прыладаў пад назвай "расійскае ТБ" ці "расійскае радыё", будзь яны няладныя, а з нейкіх іншых, больш годных прастораў.


*Смяяцца, смяяцца і яшчэ раз смяяцца*

Самыя прыгожыя рыфмы і прыгожыя мелодыі я напісаў, калі мыў посуд на кухні

**- Гэта вандроўка дзеля вандроўкі, ці дзеля творчасці, каб сабраць новую інфармацыю, натхніцца?**

- Я не падзяляю гэтыя моманты — падарожніцкі, творчы. Больш таго, скажу, што самыя прыгожыя рыфмы і прыгожыя мелодыі я напісаў, калі мыў посуд на кухні.

Творчасць — гэта не значыць, што ты адасобіўся ў сябе ў кабінеце, надзеў лаўровы вянок, узяў гусінае пяро, злавіў музу за хвост — і давай тварыць. Такога не бывае. Паэт сказаў: "Калі б вы ведалі, з якога смецця. Растуць вершы, не ведаючы сораму". Цікавыя думкі звычайна прыходзяць у самых нечаканых месцах і самых нечаканых сітуацыях. А ўжо ад вандроўкі такога роду я сапраўды схільны чакаць нейкіх магутных уражанняў з магутным выйсцем.

Я не меншыя тэрміны пражываў у Гімалайскіх краінах, і ніхто гэта асабліва не заўважаў

**- Вы паўгода пражылі ў Тбілісі. Як гэта на вас паўплывала?**

**Яўген Фёдараў:** Гэты куток нашай планеты мяне вельмі вабіў яшчэ з дзяцінства. Грузінская культура, якая вельмі трывала ўвайшла ў нашу, рускую, ды і любую іншую культуру, якая мае дачыненне да постсавецкай прасторы. Цяжка пераацаніць гэты ўплыў, таму што і кіно, і музыка, і тэатр, і любыя мастацтвы, у тым ліку, і выяўленчае мастацтва, якое зусім дзіўным чынам прадстаўлена грузінскім народам — усё гэта паўплывала, і, вядома, хацелася бачыць гэта бліжэй, выкупацца ў гэтым, пагрузіцца ў гэта, што я і зрабіў з вялікім поспехам.

**- Дарэчы, пра палітычныя падзеі. У нас нядаўна прайшла пяцігадзінная прэс-канферэнцыя прэзідэнта, падчас якой "Беларусь замерла" — увага людзей была прыкавана да тэлевізара. У рэдакцыі нашай нават спрэчка выйшла. Адзін журналіст сказаў: "Перастаньце гэту лухту глядзець, ванітуе!", а другі адказаў, што: "Гэта трэба глядзець, каб ведаць пазіцыю ўлады, і пісаць пра гэта, аўдыторыя ж толькі гэтага і чакае!". І такія спрэчкі сталыя сярод людзей — цікавіцца ці абстрагавацца. Вы як лічыце за епшае паступаць у такіх сітуацыях?**

- Я ведаю масу цалкам разумных людзей, якія не могуць адарвацца, калі бачаць на экране якую-небудзь перадачу тыпу "Дом-2". Вось гэта шлак, які па тэлевізары — вось чым горш, тым больш зацягвае які глядзіць. Я не ведаю, я ўжо шмат гадоў як выключыў са свайго жыцця тэлевізійны прымач, таму мне цяжка ацаніць усё, што там адбываецца. Але я лічу за лепшае не марнаваць свой час, тым больш, такі працяглы, на чалавека, які мне не цікавы.

Мы самі жывём у няпростай краіне, з вельмі няпростым палітычным строем. Млоснасць гэта — гэта звычайная, рэфлексная, тое, што вы цяпер апісалі. Але не ведаю. Калі вы спытаеце мяне пра нашых дэбілаў, якія сядзяць там у нас наверсе — я скажу зусім спакойна. Пра вашага я не ведаю нічога.

Іх трэба высмейваць усіх. Смех — гэта самае важнае для іх

**- Так распавядзіце пра вашых... Нам цікава, што робіце вы.**

- Я гляджу на прэзідэнта Пуціна — прашу прабачэння, я вельмі рэдка прамаўляю гэта прозвішча, каб не паганіць прастору вакол сябе — і ён ужо дачакаўся, што людзі над ім пачалі смяяцца ў адкрытую ўсё больш і больш.

Мне здаецца, іх трэба высмейваць усіх. Смех — гэта самае важнае для іх. Усяго астатняга яны не баяцца — ні пагроз, ні крытыкі, таму што яны яе не бачаць, яны заўсёды ашукаюць, таму што яны ўсё клафеліншчыкі, яны падсыплюць атруты, яны падпояць, падкладуць прастытутку, падкінуць наркотыкі — усё, што заўгодна яны могуць зрабіць — гэта ўсім вядома. А са смехам яны нічога не могуць зрабіць. Трэба над імі ўсімі ржаць. Вось і ўсё.

**МІЛА КОТКА**

# КУДЫ ПАЙСЦІ Ў ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА

**На 14 лютага прызначана некалькі рамантычных імпрэз. "J:Морс" падараць гледачам жуйкі "Love is…", а "РСП" будуць раскідвацца ўласным генафондам.**




Еўрарадыё падрыхтавала сталічны гід для закаханых меламанаў на 14 лютага. Сёлета Дзень усіх закаханых прыпадае на чацвер — не самы ўдалы дзень для вечаровых тусовак. Таму "прапанова" ад сталічных клубаў небагатая, адмысловых святочных праграм вельмі мала.

Хіба трэш-гурт "**Разбітае сэрца пацана**" вырашыў узгадаць пра закаханых у яго прыхільніц і выканаць іх самае патаемнае жаданне.

*"Як паказала практыка і апытанне насельніцтва, шматлікія прыхільніцы жадаюць ад нас дзяцей! Я нават маю гэтаму пісьмовы доказ,* — узгадвае колішні падарунак фанатак (афіша, на зваротным баку якой усё зацалавана ды напісана "**РСП**, мы хацім ад вас дзяцей") лідар гурта **Дзяніс Тарасенка**. — *Таму мы вырашылі ў гэты дзень нікога не крыўдзіць і будзем са сцэны распрыскваць свой генафонд. Самая шчаслівая абавязкова яго атрымае".*

Такая заява наўрад ці спадабаецца тым, хто плануе прывесці 14-лютага ў клуб "**Цэнтр**" сваю любімую. Тым не менш, "**РСП**" абяцаюць выканаць апошнюю праграму і лепшыя песні, а калі паспеюць, і прэзентаваць абсалютна новы трэк.

Клуб **Re:Public** 14 лютага будзе забіты закаханымі парамі. У 19:00 там пачне адмысловую праграму да Дня ўсіх закаханых гурт **"J:Морс"**. На ўваходзе ў клуб усе гледачы атрымаюць жуйкі "Love is…", а парачка шчаслівчыкаў будзе слухаць канцэрт, лежачы ў ложку!

Гурт **Naka** рыхтуе ў "**Гудвіне**" акустычны варыянт сваіх хітоў, якія **Наста Шпакоўская** выконвае пад акампанемент клавішаў.

*"Перад прэзентацыяй альбому, якая плануецца на красавік, гэта будзе апошні канцэрт у Мінску ў такім фармаце,* — распавядае вакалістка. — *Будуць і старыя, і новыя кампазіцыі, сярод іх, натуральна, будуць і песні пра каханне, якія, мне падаецца, закаханым будуць акурат да месца".*

Яшчэ адно мерапрыемства вартае ўвагі —»**Джазавы Мост**» у **ДК Прафсаюзаў**. Там выступіць брытанскі джазавы спявак **Ian Shaw** ды легенды беларускага джазу — гурт **Apple Tea**. Гэты канцэрт не пазіцыянуецца як прымеркаваны да Дня ўсіх закаханых, але, бясспрэчна, яго настрой будзе цалкам адпавядаць гэтай даце.

На 14-га лютага сталічныя клубы больш нічога не прапануюць. Хіба што, дыджэйскія вечарыны, але ж мы кажам пра інструментальную музыку. А таму давайце пашукаем штосьці-небудзь за дзень да свята.

Напрыклад, у "Мулен Руж" у чарговы раз прыязджае культавы нямецкі гурт Dephazz, а ў "Графіці" святкаваць другі дзень нараджэння ды прэзентаваць кліп будзе фанк-гурт Step Hall. Дарэчы, апошнія абяцаюць каштоўныя (і не вельмі) падарункі для ўсіх наведнікаў… Можна сэканоміць на падарунках для любімых.

Таксама 13 лютага ў малой зале к/з "Мінск" з акустычнай праграмай выступіць бярозаўскі гурт **:B:N:**, апошні альбом якіх адзначаны на фэсце "Даём рады" за найбольшы слухацкі попыт на сайце Еўрарадыё.

*"З-за акустыкі канцэрт будзе вельмі павольны ды лайтовы, таму і вырашылі яго прымеркаваць да Дня закаханых,* — разважае лідар гурта **Алесь Лютыч**. — *Да таго ж, гэта будзе першая акустыка ў поўным складзе. Раней акустычна мы выступалі толькі ўдвох, разам з гітарыстам".*

15-га лютага пра Дзень усіх закаханых прамоўтары, арганізатары ды арт-дырэктары клубаў ужо не ўзгадваюць: ніякіх тэматычных мерапрыемстваў. Так што лавіце момант і не праваронце свята!

**ІЛЛЯ МАЛІНОЎСКІ**

**8 10 370 61 770 680**

**Каб аформіць падпіску "Тут і цяпер"**

трэба адправіць смс са сваім адрасам на гэты нумар

**падпіска на газету "Тут і цяпер" - БЯСПЛАТНАЯ**

**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 07.02.13
Тыраж 299 экзэмпляраў